# Тыднёвік Магілёўскі




№ 15 (79) 21 — 27 красавіка 2000 г. Кошт 50 руб.

ДА 14-Й ГАДАВІНЫ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ

## Толькі вера і ратуе




***Хто і як займаецца ў нас чарнобыльскай праблемай? Здаецца, простае на першы погляд пытаньне выклікала ў нашага карэспандэнта, пры спробах высьветліць яго, даволі вялікія складанасьці. Выявілася, што ведамстваў нібыта шмат, але дзейнічаюць яны часьцяком няўзгоднена і паасобку, а таму – неэфэктыўна.***

*Пачаў я сваё "дазнаньне" з абласнога камітэту па экалёгіі. І адразу натрапіў на нечаканае: "Ахова прыроды не датыкаецца да чарнобыльскай праблематыкі. Гэта справа міністэрства па надзвычайных сытуацыях".*

*У адпаведным аддзеле аблвыканкаму давялося паразмаўляць з намесьнікам кіраўніка Віктарам Сушковым. Паводле ягоных сьцьверджаньняў, вялікіх праблемаў у чарнобыльскіх справах няма. Ён ахвотна паведаміў, што ў кожным раёне ёсьць прыборы ЛВЧ (лічыльнікі выпраменьваньня чалавека), што людзі штогод правяраюцца, што існуе жорсткі кантроль за захаваньнем абумоўленых нарматываў і якасьцю сельгаспрадукцыі. У Магілёве, параіў ён, можна праверыць сумнеўныя прадукты ў Цэнтры гігіены й эпідэміялёгіі ды на рынках. Тое ж можна зрабіць у кожным райцэнтры...*

*А я чамусьці ўзгадваю грамадзкі і чынавенскі настрой напрыканцы 80-х, калі яшчэ часта і сур'ёзна вялася паўсюль гаворка пра пасьледкі аварыі на ЧАЭС. Тады ўсіх хвалявалі словы: зона, радыяцыя, радыёнукліды, выпраменьваньне, стронцый і цэзій. Сёньня ад высокага чыноўніка спакойна чую: "Жыць можна зараз усюды, дзе не вышэй за 15 кюры, дзе няма абавязковага адсяленьня". Пажадана, зразумела, каб пры гэтым выконваліся правілы паводзінаў. Але сам жа і прызнае, што гэтага практычна няма. Людзі карыстаюцца лесам, рачулкай, калі ёсьць побач зь вёскай, зьбіраюць грыбы і ягады, пасьвяць каровак на закінутай пашы. Ясна, хаця адказны работнік гэтага не прызнаў, што таксама паводзяць сябе калгасы і саўгасы, фэрмы. Мо, дакладней сказаць, менавіта таму паводзяць сябе небясьпечна людзі, што прыклад даюць гаспадарчыя дзяржаўныя прадпрыемствы?*

*Да таго ж факты, што паведамілі мне ў Цэнтры гігіены і эпідэміялёгіі, не зусім стасуюцца, мягка гаворачы, з спакойным настроем аблвыканкамаўскага аддзела, хаця і называецца ён надзвычайным. У большасьці калгасаў няма адпаведных санітарных пашпартоў, ня складзены сьпісы асобаў, якім дазваляецца працаваць на зямлі, дзе ёсьць радыёнукліды. Ніхто нікога даўно не навучае нормам і правілам бясьпечнай працы. Можа таму, што пры гэтым яны даведаюцца пра невядомыя ім альбо забытыя рэчы. Пра тое, што маюць права на 2 камплекты спэцыяльнага адзеньня, якое павінны "цэнтралізавана" мыць. Пра тое, што для іх павінна існаваць адмысловая лазьня. А насамрэч людзі працуюць, як правіла, у сваім, самі і захоўваюць "спэцадзеньне" як могуць і ўмеюць. Лазьня, калі ёсьць – дык ёсьць, а няма – дык няма. Доктарка Цэнтра Галіна Царыкевіч да ўсяго дадае, што ў шматлікіх калгасах, што працягваюць весьці гаспадарку "у зоне", не абсталяваны належным чынам мэханічныя двары, месцы захоўваньня транспарту, гаспадарчыя пляцоўкі. Тэхніку паўсюль мыюць на адкрытым паветры ці ў памяшканьнях, дзе няма адпаведных фільтраваных ці "зачыненых" сьцёкаў. Забруджаная вада вольна трапляе ў глебу ды вадаёмы. Скарыстаныя для мыцьця тэхнікі прылады і сродкі не зьбіраюцца і не зьнішчаюцца адпаведным чынам. Ва ўсе раёны накіраваныя строгія санітарныя "прадпісаньні", ды толькі на выкананьне іх патрэбныя грошы. А ў каго, цікава, яны сёньня ёсьць?*

*Для паўнаты, як тое кажуць, карціны патэлефанаваў у Краснапольскі райвыканкам, у тамтэйшы надзвычайны аддзел. Ён не назваўся, а я не запытаўся пра прозьвішча. Важна было, што скажа чалавек, які займаецца справай там, у самым забруджаным раёне – так бы мовіць, сярэднестатыстычны дзяржаўны чыноўнік, "пастаўлены на Чарнобыль". Адказвае, між іншым, сумленна і шчыра: праблемаў шмат і яны вядомыя. Патрэбныя асьвета і антычарнобыльская прапаганда (у сэньсе навучаньня людзей, асабліва дзяцей, прафіляктычным мерам). Пажадана лепшае, чым ёсьць цяпер, харчаваньне, зноў жа найперш – для дзяцей. Не пашкодзіла б мець больш сучаснае мэдычнае абсталяваньне, больш эфэктыўныя лекі. Аднак на ўсё патрэбныя грошы, а іх – няма. Нават на выплату заробкаў сродкі ў раёне іншым разам шукаюць па паўгады...*

*Пэсымызм, які адчувальна гучаў ва ўсіх маіх суразмоўцаў, паступова адолеў і мяне. Відавочна, што шырокага дзяржаўнага супраціву чарнобыльскай навале няма. Ёсьць прывыканьне да жыцьця на небясьпечных тэрыторыях. Ёсьць абыякавасьць да лёсаў дзяцей, якія рызыкуюць патрапіць пад непасрэднае ўзьдзеяньне радыяцыйных рэчываў. Ёсьць дзіўная вера ў тое, што навала ледзь не мінула, бо нездарма ж "высочайше дозволено" усім "чарнобыльцам" жыць там, дзе хочуць, не зьвяртаючы ўвагі на пасьледкі і ўмовы.*

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

ДА ЛЕНІНСКАЙ ГАДАВІНЫ

## Усе – на суботнік!

Шматгадовая савецкая традыцыя жыве і квітнее ў нас. Можа, хочацца верыць, ня кожны наш цяперашні школьнік ведае пра Леніна тое, што калісьці для нас было абавязковым і неаспрэчным: Ленін – самы жывы, самы чалавечны чалавек. Можа, школьнікі зараз ведаюць нарэшце праўду пра гэтага стваральніка камуністычнай сыстэмы і дзяржавы, якія прынесьлі сьвету столькі гора, крыві і пакутаў.

Аднак жа ў нас прыхільнікі гэтага чалавека і ягоных антычалавечых мэтадаў забесьпячэньня людзей шчасьцем на вякі спакойна і ўпэўнена, нават па гаспадарску, ходзяць па вуліцах, засядаюць у дзяржаўных кабінэтах...

Заўтра – суботнік. Фармальна – заўтра. А распачаўся ён у абласным цэнтры за тыдзень-два да чарговай ленінскай гадавіны. Праўда, ня ўсюды сёньня адважваюцца называць суботнік менавіта ленінскім: як быццам, суботнік і суботнік. Аднак кантэкст "сьвята працы" ад гэтай сарамлівасьці не мяняецца.

...Я б на адзін суботнік схадзіў абавязкова і ў добрым настроі. На суботнік па канчатковаму прыбіраньню аджыўшага ідэалягічнага сьмецьця, у першую чаргу – шматлікіх каменных і гіпсавых ідалаў-Ільлічоў, што запалянілі нашыя гарадзкія і вясковыя ляндшафты. Можа б тады і з мазгоў хутчэй сыйшла камуністычная твань, і людзі нарэшце адчулі б сябе гаспадарамі ў сваім доме, а не парабкамі і прасіцелямі міластыні ў дзяржавы.

Але калі рабіць справу грунтоўна, то адным суботнікам тут не абыйсьціся. Патрэбная руплівая праца з дня ў дзень, з года ў год. Ды яна, дарэчы, ужо даўно пачалася, і спыніць яе няздольны ніхто, нават самы "чалавечны чалавек", і тым больш ягоныя духоўныя нашчадкі. Бо назва ёй – Кола Гісторыі, якое рухаецца толькі наперад.

***В.АЎРАМЕНКА***





## Магілёўская Хвіліна памяці й смутку



**Каардынацыйная нарада прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў абласнога цэнтра прыняла плян мерапрыемстваў па адзначэньні Дня чарнобыльскай трагедыі. Вырашана не праводзіць, як гэта было ўсе папярэднія гады, шэсьця і мітынгу. Тыя, хто будзе мець жаданьне прыняць удзел у масавай акцыі, змогуць гэта зрабіць, калі далучацца да менскага "Чарнобыльскага шляху".**

**У Магілёве ж мяркуецца правесьці аднагачасовыя жалобныя набажэнствы ў Саборы і Касьцёле пры ўдзеле ўсіх, каму памятны гэты трагічны дзень – 26 красавіка 1986 году. Адмысловыя набажэнствы замоўленыя. Пасьля іх удзельнікі акцыі жалобы і смутку накіруюцца ў цэнтар горада, да пляцоўкі побач з фантанам на Першамайскай. Тут яны паўстануць у форме жывога Крыжа, запаляць сьвечкі і Хвілінай памяці і смутку адзначаць самую трагічную падзею ў найноўшай гісторыі Бацькаўшчыны.**

**Аргкамітэт акцыі запрашае магілёўцаў далучыцца да адзначэньня 26 красавіка. Набажэнствы ў саборы Трох Сьвяціцеляў і касьцёле Сьвятога Станіслава пачнуцца а 6-й гадзіне ўвечары. Хвіліна маўчаньня пад кранальны гук чарнобыльскага звана на Першамайскай пройдзе пазьней, пасьля іх завершаньня.**



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Шкада, што няма часу (хаця, калі сказаць шчыра, жаданьня таксама) праверыць – якім чынам выявілася ініцыятыва калектыву магілёўскай швэйнай фабрыкі "Вясьнянка" наконт працоўнага суботніку. Дзяржаўныя мясцовыя газэты паведамілі, што менавіта тут, на фабрыцы, нарадзілася ідэя правядзеньня сёлетняга "сьвята працы". Ня ведаю, як вам, шаноўныя чытачы, а мне неяк няёмка ад думкі пра тое, за каго лічыць нас нашая ўлада. І колькі гадоў, страх падумаць. А мы нібыта верым...

Два выпадкі, на працягу аднаго тыдня, міліцэйскага затрыманьня людзей (у Шклове і Асіповічах) з наяўнымі доказамі іхняга ўдзелу ў распаўсюджваньні наркатычных рэчываў – гэта, згадзіцеся, замнога нават для цяперашняга разбэшчанага часу. Магчыма, распаўзаньне атруты тлумачыцца тым, што міліцыя на гэтым фроньце працуе лепш за лекараў. І значна лепш, зразумела, за пэдагогаў і бацькоў. Наркатычная залежнасьць, як называюць хваробу спэцыялісты, маладзее ў нашай краіне таксама як і злачыннасьць.

У абласным цэнтры днямі стала на ўнівэрсытэт больш. Такі высокі статус атрымаў машынабудаўнічы інстытут. Мне ж памятаецца леташні скандал вакол імя тагачаснага рэктара Ходырава. Невядома, дарэчы, чым ён скончыўся. Таму дзіўна, якім чынам, не адказаўшы грамадзтву на гэтае пытаньне, можна сьпяшацца з наданьнем установе вышэйшай ступені ў сыстэме навучаньня і, заўважце, выхаваньня. Імкненьне безпадстаўна насіць больш высокае званьне, чым гэта адпавядае праўдзе, ёсьць, на маю думку, найбольш яркай праявай правінцыяналізму, ад якога менавіта такім чынам хочуць зьбегчы. Такая вось дыялектыка.

Распараджэньнем гарвыканкаму цяпер будаўнікі маюць права здаваць у эксплюатацыю негатовыя будынкі. Дарабляць будуць гаспадары. З аднаго боку – нейкая дурнота. А з другога – даўно насьпеў час. Усё роўна жыхары новых дамоў заўсёды пачынаюць жыцьцё ў іх зь перарабак і зьменаў таго, што пакінулі ім будаўнікі згодна праекту. Толькі час і матэрыялы марнаваліся. Цяпер усё выглядае лягічна. Каб, зразумела, ня сорам за такія рашэньні напрыканцы другога тысячагодзьдзя.

У Магілёве затрымалі тых, каго падазраюць у "продажы" юных магіляўчанак на маскоўскія путанавыя рынкі. Варта адзначыць, што маскоўскі кірунак стаў для гэтага віду крымінальнага бізнэсу вельмі папулярным. У гэтай справе адбылася поўная інтэграцыя. Яна сталася, праўда, вынікам ня вечнай дружбы суседніх народаў, а недапушчальна дрэннага матэрыяльнага стану нашага грамадзтва, асабліва моладзі. Калі хочацца есьці, апрануцца, адпачыць, а грошай на гэта няма, бо няма працы, – не да маралі.

Яшчэ адной формай падатку "парадавалі" прамыслоўцаў адпаведныя ўстановы. Цяпер прадпрыемствы будуць скідвацца на патрэбы мэдычнай галіны. Сьвятая, здаецца, справа. Але такіх справаў сьвятых – кожная, за якую ня возьмесься. А заводаў, якіх падаткі не палохаюць, адзінкі. Ім бы хто дапамог у абнаўленьні тэхналёгіі, станочнага парку, набыцьці новых спажыўцоў...

Сто гадоў з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага (малодшага брата славутага пісьменьніка Максіма Гарэцкага) – выдатнага навукоўцы, акадэміка, доктара геолага-мінэралягічных навук адзначылі ў Горках, дзе ён жыў і працаваў. Сусьветна прызнаны вучоны, ён прайшоў усе энкавэдэшныя выпрабаваньні. Ці варта гаварыць, што ніякім шпіёнам ці здраднікам Радзімы Гаўрыла Гарэцкі ня быў. Каты ягоныя былі менавіта такімі, хаця й дзейнічалі ад імя гэтай самай "радзімы". Іншы раз падумаеш: а ці не адбываецца тое ж самае зь некаторымі нашымі людзьмі сёньня? Я маю на ўвазе тых, хто верна служыць "краіне" (чытай – рэжыму), нават не шкадуючы сябе. Ці не атрымаецца й тут, што такое служэньне абернецца злачынствам, бо не спалучаецца з законнасьцю і маральлю.

*Да сустрэчы. Сымон Глазштэйн.*



***У Беларусі сёньня жыве больш за 2 мільёны чалавек, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У іх ліку 7298 ліквідатараў, якія сталі інвалідамі (з 11300, што прымалі ўдзел у аварыйнай працы). Паводле прынятага Вярхоўным Саветам у лютым 1991 года Закона аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, на сёньня прадастаўленыя матэрыяльна-мэдычныя ільготы ўсім дзецям, хворым на анкалёгію, а таксама ўдзельнікам ліквідацыі пасьледкаў аварыі ў зонах, што першымі падлягалі эвакуацыі. Штогод, пасьля пазначанага вышэй часу, фінансаваньне праграм, зьвязаных зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на ЧАЭС, памяншаецца. Пры тым, што штогод павялічваецца колькасьць людзей, якія хварэюць у сувязі з узьдзеяньнем на іх радыяцыйных фактараў.***

# Калі ж высмакчам чарнобыльскі воблак?

*Знаёмцеся: СЯНЬКО Ягор Ягоравіч, прафэсар катэдры агульнай фізікі Магілёўскага ўнівэрсытэта, былы дэкан фізыка-матэматычнага факультэта. Праблематыка яго навуковых дасьледаваньняў яшчэ з часоў асьпірантуры – канцэнтрацыя радыёактыўнасьці ў атмасфэры ў залежнасьці ад мэтэаралягічных умоваў. У 60-я гады ён працаваў у Чалябінску (гэта было ўжо пасьля той першай, але замоўчанай савецкімі ўладамі, аварыі на атамнай электрастанцыі), даволі шмат часу правёў на першай у сьвеце атамнай электрастанцыі ў Обнінску.*

*У 1986 годзе, адразу пасьля Чарнобыльскай катастрофы, дэкан фізмата Я.Сянько напісаў ліст у абкам партыі і аблвыканкам, у якім паведамляў аб характары сваіх навуковых дасьледаваньняў і гатоўнасьці ўзяць удзел у мерапрыемствах па ліквідацыі наступстваў ядзернага выбуху. Ліст вярнуўся да рэктара пэдінстытута з прыпіскай "для разъяснения Сенько". Рэктар нічога "разъяснять" ня стаў, маўляў, сам усё разумееш.*

*Я задаў Ягору Ягоравічу некалькі пытаньняў.*

**– Прайшло амаль 14 год пасьля катастрофы. Нагаворана, напісана шмат. Людзі на такую інфармацыю ўжо амаль не рэагуюць. Можа, і сапраўды ўжо нічога страшнага няма? І няма сэнсу турбавацца пра гэта?**

– Не, турбавацца ёсьць пра што. Пачнем з таго, што пэрыяд паўраспаду і цэзія-137, і стронцыя-190 каля трыццаці гадоў. Пра адносна поўны распад можна будзе казаць прыблізна праз трыста год. За 14 гадоў не распалася і чацьвертай долі гэтых радыёактыўных рэчываў. І заражаныя мясьціны застаюцца дагэтуль небясьпечнымі для людзей. Пацьверджаньне таму – дзіцячая хваравітасьць. Асабліва рост захворваньняў шчытападобнай залозы, пераважна ў тых дзяцей, каму на дзень аварыі было да трох год ці якія нарадзіліся адразу пасьля аварыі. Але пра гэта падрабязьней размаўляйце з мэдыкамі. Асаблівая небясьпека для людзей цяпер у тым, што гэтая халера патрапіла ўжо ў харчовы ланцуг: радыёактыўныя расьліны – жывёлы, якія харчуюцца гэтымі расьлінамі – чалавек, які спажывае мяса гэтых жывёлаў – ад чалавека і жывёлаў угнаеньне на палі, адтуль зноў у расьліны і так раз за разам мы прапускаем праз сябе парэшткі чарнобыльскага воблака, пакуль ня ўсмокчам яго цалкам.

**– Як жа мне, звычайнаму абывацелю, абараніцца ад гэтага? Ці ёсьць прыборы індывідуальнага карыстаньня, з дапамогай якіх я мог бы распазнаць радыяцыйна небясьпечныя прадукты?**

– Не, індывідуальных прыбораў няма. Або яны вельмі недакладныя. Аналіз прадуктаў трэба рабіць у лябараторных умовах. Ёсьць такая лябараторыя ў нашым унівэрсытэце, ёсьць на кожным буйным рынку. Там і думаюць пра абарону звычайнага абывацеля. Калі ня хочаце рызыкаваць, патрабуйце ў гандляра на рынку дакумэнт аб радыяцыйным кантролі. Хаця й там інфармацыя няпоўная. Лябараторныя прыборы выяўляюць толькі гамафон, інтэнсыўнасьць гамавыпраменьваньня. Гэта характэрны і важны паказчык, але ёсьць іншыя, якія ў лябараторыях рынкаў не выяўляюцца.

**– Скажыце, калі ласка, а вы сам купляеце прадукты на рынку?**

– Купляю. Я знаёмы з супрацоўнікамі лябараторыі на Менскім рынку, і я ім давяраю.

*Што ж, паверым аўтарытэтнаму меркаваньню прафэсіянала і будзем спакойна купляць прадукты на Менскім рынку. Бо, зь іншага боку, а што ж нам яшчэ застаецца?*

***Гутарыў М.БУЛАВАЦКІ***



Фота А. Ліціна



# ...Куды пойдзеш у нашым пасёлку

Хутка павінна адбыцца справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя афіцыйнай прафсаюзнай арганізацыі ААТ "Шклозавод Кастрычнік" (п.Ялізава Асіповіцкага раёна) і ўнясеньне зьменаў у калектыўную дамову. Зьмены ў "канстытуцыю" прадпрыемства ўжо распрацаваныя. На ўсіх сходах працоўных структурных падразьдзяленьняў пад ціскам мясцовага прафбоса Л.Татарыцкай і адміністрацыі завода (дырэктар – А.Мазура) прымаецца толькі адзіная папраўка: аказаньне матэрыяльнай дапамогі ў памеры 3-х мінімальных заробкаў у выпадку знаходжаньня работніка ў лякарні звыш як паўтара месяца. Усе спробы ўнесьці зьмены па памеру заробку (на заводзе ён не адпавядае заканадаўчым патрабаваньням) і па ўмовах працы (яны амаль што сярэднявечныя) душацца ўсімі даступнымі дырэктару і прафсаюзнай начальніцы сродкамі.

Такім чынам ігнаруецца Генэральнае тарыфнае пагадненьне і Галіновае тарыфнае пагадненьне паміж прафсаюзамі, урадам і галіновымі міністэрствамі, паводле якіх сярэдні заробак мусіць складаць 135% мінімальнага спажывецкага бюджэту, а ўмовы працы – адпавядаць санітарна-гігіенічным нормам.

Вось і атрымліваецца, што два найгалоўных чалавека ў Ялізаве, бо пасёлак – гэта найперш шклозавод, дамагаюцца толькі захаваньня свайго спакойнага і забясьпечанага жыцьця. "Няма магчымасьці павялічэньня заробку!" – лямантуюць яны. Але ж мы ведаем, што па выніках працы за мінулы год чысты прыбытак склаў 67 млрд. недэмінаваных рублёў. Каму яны пайшлі? На гэтую тэму з рабочымі начальства не размаўляе. Працаўнікам даводзіцца самім рабіць высновы. Усё больш у сувязі з гэтым размоваў аб тым, што прадпрыемства раскрадаюць новыя гаспадары, якія кантралююць вытворчасьць: расейскія фірмы "Лада Холдынг" і "Лада ОМС". Менавіта таму такая добрая для эканомікі справа як прыватызацыя знаходзіць у Ялізаве ўсё менш прыхільнікаў. З заводу нават пайшоў ліст да Адміністрацыі краіны з просьбай аб вяртаньні прадпрыемства пад апякунства дзяржавы.

Аднак вернемся да прафсаюзаў. На заводзе іх два: афіцыйны і свабодны. Першы абараняе інтарэсы начальства, другі – рабочых. Таму першы дырэктару любы, а другі – наадварот. Менавіта дзякуючы намаганьням сябраў СПБ хутка будзе зноў адноўленая на прадпрыестве праца ФАПа, больш-менш рэгулярна цяпер паднаўляюцца ў цэхах аптэчкі. Нават тое, што ўпершыню ў калектыве напярэдадні новага году кожны рабочы атрымаў падарунак для сваіх дзяцей – таксама заслуга свабоднага прафсаюза. Раней, калі абодва бацькі працавалі на заводзе, падарунак давалі толькі аднаму зь іх. Ёсьць у свабоднага прафсаюза іншыя добрыя пляны.

Аднак яны могуць ня спраўдзіцца. Начальства нас гоніць і пераследуе, а людзі, на жаль, маўчаць. Вельмі зрэдку хто-ніхто ўспамінае пра сваю годнасьць: нядаўна, прыкладам, адзін рабочы цэха шклотары некалькі дзён адмаўляўся ад працы, пакуль яму ня выдалі неабходны спэцабутак. Збольшага людзі па дабрыні сваёй схільныя "разумець цяжкасьці адміністрацыі", якія шмат год усё ніяк не сканчаюцца, і цярпець зьдзекі над сабой, – абы не пазбавіцца працы. А куды пойдзеш у нашым пасёлку?!

Аднак жа адчуваньне такое, нібы патроху пачынае расьці самасьвядомасьць людзей. Магчыма, праявіцца гэта падчас працоўнай канфэрэнцыі. Ва ўсялякім выпадку мы маўчаць не зьбіраемся.

***Алесь МІХАЛЬЧУК, актывіст Свабоднага прафсаюза Ялізаўскага шклозавода "Кастрычнік"***

# Хрыстос уваскрос – сапраўды уваскрос!

Дарагія браты і сёстры!

Трываючы ў 40-дзённай пустыні Вялікага Посту, часьцей зьбліжаемся да церпячага Хрыста падчас разважаньня Крыжовага Шляху, удзелу ў рэкалекцыях і сьпяваньня Горкіх Жальбаў. Хочам падзякаваць Збавіцелю за Яго бясконцую любоў да нас.

Аднаўляецца і адраджаецца Касьцёл на Беларусі: менаваныя новыя біскупы, утвораная Віцебская дыяцэзія.

Мінула два месяцы з таго часу, калі я прыняў магілёўскую парахвію і ўвесь дэканат, якім кіраваў Ксёндз Уладзіслаў Блін – цяперашні Віцебскі біскуп. Уваходзячы ў абавязкі пробашча, хачу працягваць распачатую маім папярэднікам справу.

Юбілейны Год – гэта надзвычай багаты ў Божую Міласэрнасьць час, калі існуе магчымасьць атрыманьня юбілейнага адпусту, спаўняючы вызначаныя Касьцёлам умовы. І мы, сьвятары, дапамагаем у гэтым. Хочам у нашай парахвіі і дэканаце агарнуць сардэчным клопатам кожнага чалавека. Аднак "жніво вялікае, але працаўнікоў мала". Таму заахвочваю вас да гарлівай малітвы за новыя пакліканьні з нашых парахвіяў, каб не бракавала сьвятароў, братоў і сёстраў законных да службы Божай на беларускай зямлі, асьвечанай крывёю стольких ахвяр найлепшых сыноў і дачок Касьцёла і Бацькаўшчыны.

Надыходзіць вясна – надзея адраджэньня жыцьця, пацьверджанага Зьмёртвыхпаўстаньнем Хрыста. Ён сваёй сьмерцю вызваліў нас з-пад улады граху і вярнуў нам годнасьць Божых дзяцей.

З гэтай радаснай нагоды жадаю ўсім вам, каб моц Уваскрослага Хрыста напоўніла вашыя сэрцы верай, надзеяй і любоўю. Няхай Зьмёртвыхпаўсталы Збавіцель дапамагае вам у зьнясеньні цяжараў штодзённага жыцьця!

Весяліцеся, бо Хрыстос уваскрос! Алелюя!

З сардэчнымі сьвяточнымі віншаваньнямі

ваш пробашч і дэкан

*Ксёндз Роман Факсінскі з супрацоўнікамі*





## Расклад набажэнстваў у Архікатэдры сьвятога Станіслава

Вялікая Пятніца 21 красавіка
а 15-й гадзіне – Крыжовы Шлях
а 18-й гадзіне – Літургія Вялікай Пятніцы і Мукі Пана

Вялікая Субота 22 красавіка
а 9-й, 10-й, 11-й, 12-й, 13-й, 14-й, 15-й, 16-й, 17-й гадзінах пасьвячэньне велікодных страваў
а 21-й гадзіне – Вілігія Вялікдня (Сьвятая Імша і Літургія Вялікай Суботы)

Нядзеля Ўваскрашэньня Пана 23 красавіка
а 7-й гадзіне – Рэзурэкцыя (Сьвятая Імша)
а 9-й гадзіне – Канцэрт харавой музыкі
а 10-й гадзіне – Арган
а 11-й гадзіне – Сьвятая Імша
а 12-й г. 30 хв. – Сьвятая Імша для дзяцей
а 15-й г. 30 хв. – Хор Сяргея Лішчанкі
а 17-й гадзіне – Сьвятая Імша для моладзі
а 18-й гадзіне – Арган
а 19-й гадзіне – Сьвятая Імша

Велікодны Панядзелак 24 красавіка
а 9-й гадзіне – Сьвятая Імша
а 11-й гадзіне – Сьвятая Імша
а 18-й гадзіне – Сьвятая Імша

*Падчас Велікоднага Трохдзёньня у нашай парахвіі будзе госьцем Апостальскі Нунцый на Беларусі Арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі.*

**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!**

# Песах трэба адзначаць!

Габрэі ўсяго свету сваю пасху – Песах – пачалі сьвяткаваць двума днямі раней за каталіцкую. Гэтак адбываецца на зямлі ўжо 4 тысячы гадоў у азначэньне сыходу народу габрэйскага зь Ягіпту. Паводле Старога запавету 600-тысячны народ, які прагнуў волі, пакінуў зямлю фараонаў, дзе падвяргаўся рабству і перасьледу. Сорак гадоў блуканьня па пустэчы прывялі нарэшце габрэяў у зямлю абетаваную, дзе заснавалі яны сваю незалежную і вольную дзяржаву. Шмат якія яшчэ цяжкасьці і пакуты давялося перaадолець народу ў наступныя вякі і часы. Аднак ён не скарыўся, не пахіснуўся ў веры сваёй. Ня здрадзіў Богу свайму...

Сьвята волі і надзеі такім было заўжды. І ў часы старадаўняй велічы Ізраільскай дзяржавы. І ў часы сярэднявечных ганеньняў. І ў часы фашысцкіх гета. І ў часы камуністычнага крывадушша. "Песах трэба абавязкова адзначаць", – памятаю, як настаўляла на гэты конт мяне мая бабуля.

І сапраўды, сьвята памяці і надзеі, волі і радасьці трэба адзначаць! Хто не пасьпеў своечасова, – яшчэ ёсьць магчымасьць. Сьвята доўжыцца тыдзень.

Зь Песахам усіх!

*Сымон ГЛАЗШТЭЙН, да якога далучаюцца чытачы і рэдакцыя "ТМ"*

СЭНСАЦЫЯ?

# Беларусь парушыла эмбарга ААН

У брытанскай прэсе зьявілася інфармацыя аб тым, што пры пасярэдніцтве Расеі Беларусь заключыла зьдзелку з Іракам на мадэрнізацыю сыстэмы супрацьпаветранай абароны гэтай краіны і падрыхтоўку неабходнага ваеннага пэрсаналу для яе абслугоўваньня. Паведамляецца аб тым, што "перамовы наконт гэтай зьдзелкі, якая ўяўляе сабою недапушчальнае парушэньне эмбарга ААН на пастаўкі зброі краіне-агрэсару, вяліся паміж Багдадам і ваеннымі экспэртамі Беларусі". Брытанская прэса паведамляе, што дамова пра гэта была падпісаная з дазволу Масквы сёлета ў лютым падчас знаходжаньня ў Багдадзе высокапастаўленай беларускай дэлегацыі на чале зь віцэ-прэм'ерам Уладзімерам Замяталіным.

*Паводле БЕЛАПАН*

P.S. Афіцыйнага камэнтару адпаведных беларускіх ведамстваў агенцтва БЕЛАПАН на дзень выхаду нашай газэты ў сьвет ня мела.

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Шклова

***Палова аўтобусных маршрутаў паміж вёскамі раёну скарочана ў сувязі зь вясновай пасяўной кампаніяй.*** Па горадзе яшчэ можна праехацца, а дабрацца да вёскі – як пашанцуе. Якая там насамрэч адбываецца эканомія паліва – невядома. Тут важна іншае: якія меры прынятыя для яе, пасяўной, забесьпячэньня, бо па гэтым "паказчыку" ацэньваецца начальніцкае шчыраваньне.

***Па ініцыятыве старшыні райвыканкама А.Агеева ў раёне зьмяніліся старшыні ў 4 калгасах,*** мяецца намер правесьці замену кіраўнікоў яшчэ ў чатырох, а ў двух калгасах кіраўнікі знаходзяцца пад асобным кантролем. У гаспадарцы з красамоўнай назвай "Імя Леніна" за апошні час зьмянілася ажно чацьвёра старшыняў, але справы не палепшыліся там нікольки. Замены вельмі часта сканчаюцца перастаноўкай начальніка з месца на месца. Затое па раёну бяз справы ходзяць двое выдатных спэцыялістаў, кандыдатаў сельгаснавук, але нікому яны непатрэбныя, бо няўгодныя са сваімі навацыямі і самастойнасьцю.

### ...з Крычава

***Апошнім часам у раёне імкліва расьце колькасьць людзей, якія пакутваюць на сухоты.*** Зараз хворых 73 чалавекі на 100 тысяч насельніцтва. Гэта значна болей, чым па вобласьці і па краіне. Спэцыялісты называюць сухоты хваробай бедных людзей, якія ня маюць магчымасьці працяглы час правільна харчавацца, жыць у нармальных пабытовых умовах.

***Усё больш маладых жыхароў раёна шукаюць працу за межамі роднага краю.*** Па інфармацыі загадчыка аддзела райвыканкаму па справах моладзі В.Жывіцкага сёлета больш за 60 маладых крычаўлянаў паедуць на сельскагаспадарчыя працы ў Краснадарскі край (Расея), а яшчэ 15 – у Чэхію. Неафіцыйная міграцыя моладзі з раёна не падлягае дакладнаму акрэсьленьню.

### ...з Мсьціслава

***На пачатак года ў раёне зарэгістравана 164 сям'і, у якіх ёсьць вялікія праблемы з выхаваньнем дзяцей.*** Больш за 300 непаўнагадовых хлопчыкаў і дзяўчынак пастаянна не даядаюць, дрэнна апранутыя, ня маюць нармалёвых умоваў для самастойных заняткаў і адпачынку. Многія дзеці ўсьлед за бацькамі паляць, ужываюць сьпіртовыя напоі, а тое й наркатычныя рэчывы. Для іх створаны Цэнтар сацыяльна-пэдагагічнай і псыхалягічнай дапамогі. Пачала сваю працу гэтая ўстанова з таго, што прадастаўляе падлеткам магчымасьць правесьці тут нармальную ноч і крыху падсілкавацца.

### ...зь Бялынічаў



***Калгасьнікі гаспадаркі з гучнай назвай "Наша перамога" жывуць зараз надзеяй, што іх прыбярэ да сябе магілёўская вытворчая фірма "МАГАТЭКС".***

Гарадзкія шэфы ня толькі расшчодрыліся гэтымі днямі на сродкі для закупу насеньня, угнаеньняў і паліва, але й накіравалі на працу сваіх людзей. Выключная большасьць калгасьнікаў з заміраньнем сэрца чакае: ці спраўдзіцца спадзеў на тое, каб гаспадарка, што жыве на мяжы поўнага развалу, сталася структурным падразьдзяленьнем гарадзкой вытворчай фірмы.

*Аляксандар ШЧАРБАК, Андрэй КУЗЬМІН, Міхась КАРПЕЧАНКА*

# У Бабруйску абвешчаныя судовыя рашэньні

Як мы паведамлялі ў мінулым нумары, Бабруйская фэміда ўзяла перапынак на разглядзе адміністратыўных справаў затрыманых грамадзянаў падчас сьвяткаваньня ў горадзе Дня Волі. Суд днямі аднавіўся.

На думку міліцыі падлягаюць суду 6 чалавек. Пакуль разьбіраюцца з Алесём Чыгіром і Юрыем Кісьляком. Ленінская раённая судзьдзя Галіна Савасьцьянчык у якасьці сьведкаў выклікала супрацоўнікаў міліцыі маёра У.Красікава, маёра В.Рэкіша і капітана У.Пянчука. Усе яны падчас судовага дазнаньня блыталіся ў паказаньнях, адказвалі на ўдакладняльныя пытаньні няўпэўнена. Судзьдзя, аднак, мала зьвяртала на тое ўвагі, як і на тое, аб чым даводзілі на судзе прадстаўнікі затрыманых: міліцыянты ня склалі своечасова пратаколы, затрымлівалі людзей з парушэньнем сваіх паўнамоцтваў, сканфіскавалі без належнага афармленьня рэчы затрыманых і г.д. Судзьдзя прагледзела апэратыўныя тэлекадры, зробленыя міліцэйскім апэратарам, якія, дарэчы, абвергнулі абвінавачваньні. Але ўсё было, відаць, сплянаванае напярэдадні. Вырак такі: адміністратыўнае папярэджаньне.

Па заяве прадстаўнікоў пакараных рашэньне бабруйскага раённага суду будзе абскарджанае ў абласны суд.

*Яўген ЧАПУРЫШКІН, старшыня Бабруйскага аддзяленьня БХК*

МОЎНЫЯ СПРЭЧКІ

# Пан – польскі зварот?

Як гэта ня прыкра сьцьвярджаць, але ж пераважае думка, што слова "пан" прыйшло ў нашую Беларусь з Польшчы. Хутчэй за ўсё, гэтая няслушная думка ёсьць вынікам існаваньня ў нашай сьвядомасьці яшчэ ня зьніклых савецкіх стэрэатыпаў. Дастаткова будзе ўзгадаць часта спатыканую ў савецкіх падручніках "буржуазно-панскую Польшу" ці проста "польских панов". За савецкім ладам слова "пан" у беларускай мове канчаткова набыло адценьне клясавасьці, польскасьці, нечага варожага нарэшце. Тады ж у мове запанаваў шырока знаны ўва ўсім сьвеце ды ўсюдыісны "товарищ"...

Узапраўды ж слова "пан" – грэцкага паходжаньня, а ня польскага, чаго зацята трымаюцца нашыя слоўнікі іншамоўных словаў. Гэтак называлі ў старажытнасьці бога лясоў. Потым бог Пан стаўся апекуном паляўнічых, пастухоў, пчалярства. Лічылася, што гэты бог быў спагадлівым, дбайным ды лагодным. Калі ж ён сердаваў з чаго, дык наводзіў на навакольле панічны жах. У гонар бога Пана ў антычныя часы выбудоўвалі храмы – Пантэоны. Ды й сёньня ў складаных словах грэцкага паходжаньня, якіх у нашай мове ці мала, "пан" адпавядае беларускаму слову "ўсё" – панацэя, панарама, пантаміма; імёны Сьцяпан, Панкрат, Панфіл. Гэтыя імёны сымбалізуюць божую зьверхнасьць. Слова "пан" жыве й дасюль сярод італьянцаў і, як выявілася, нават мардвіноў. Ці гэта таксама польскі ўплыў?

Няможна трымацца польскага паходжаньня "пана" яшчэ й таму, што праваслаўная царква проста не магла запазычыць у палякаў-каталікоў такія словы, як паніхіда, панікадзіла. Такім чынам, думаю, можна лічыць больш абгрунтаванай тую думку, што прыгожыя звароты "пан, паня, паніч, паненка" – гэта словы, што йдуць з глыбіняў нашае слаўнае вялікалітоўскае гісторыі, а ня з Польшчы. Гэтыя звароты, якімі беларусы штораз радзей сёньня паслугоўваюцца, падкрэсьліваюць асабовасьць чалавека. Гэтаксама й спрадвечнабеларускія словы "спадар, спадарыня, спадарства", якія актыўна ўжываем зараз як звароты, адразу ж падкрэсьліваюць павагу да асобы ды наладжваюць гутарку ў добрым рэчышчы.

Да слова кажучы, "пан" – такі самы польскі зварот, як і ўкраінскі, славацкі ці чэскі.

*Віталь БУГАЁЎ*

